# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №116

СНЕЖАНЬ 2009г

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ЧЭРНІНСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## ЮБІЛЕЙ ДЫКТАТУРЫ

Цішком і непрыкметна прайшоў 15гадовы юбілей дыктатуры ў Беларусі. Уладзе нечага было прыцягваць лішнюю ўвагу да агіднага факту зацягнутага панавання дыктатара, г. зв. «апазіцыя» была зацята занятая ўласным калупаннем.

Практычна ўсе, каго ні пыталі, зьдзіўлена перапытвалі «Няўжо ўжэ 15 год?».

Так, пятнаццаць. За гэты час падрасло цэлае маладое пакаленне людзей.

Якія ж вынікі панавання дыктатара? Сьпярша ён абяцаў павярнуць хаду гісторыі назад, ажывіць Савецкі Саюз.

Але потым ягоная мэта памянялася на больш празаічную і рэальную: стаць багатым. Ён ім стаў, з маргіналаў выбіўся ў нобілі, адначасна стварыўшы клас тайназаможных лепшых людзей, прыкарытную арыстакратыю.

Простаму ж люду мала што перапала: будынкі, запаведнікі, санаторыі, нафта, камса, трактары, адукацыя, фармацыя- ўсё гэта пад кантролем ягонай Управы справамі.

Усёй прамысловасьцю распараджаецца ён. Па сутнасці народ маргіналізаваны, скінуты на ўзбочыну эканамічнага жыцця. За 15 год дыктатар сціснуў у сваіх учэпістых руччках усё, што туды патрапляла

Невялікі рост дабрабыту грунтуецца не на эканамічных дасягненнях, а на шпікулянцкай мітусьні.

Расейскія паўкрымінальныя кланы здолелі атабарыцца ў Беларусі з ласкі карумпаванага чынавенства.

Адукацыйная рэформа стала пагромам адукацыі. У сельскай гаспадарцы рэформ аніякіх наогул не было.

Прамысловыя прадпрыемствы сталіся разьменнай манетай дыктатара.

Дэмаграфічна вёска вымірае, на сялянскіх падворках ладзіць скокі бульдозер, вынішчаючы нават сьлед селішча.

Маладыя сем"і часта выжываюць з дапамогай бацькоў, няпоўная занятасьць робіцца звычнай рэальнасьцю.

Сацыяльная і эканамічная палітыка скончылася крахам.

Таму цяпер вось тупае наш ад ваконца да ваконца з кайстрай, канькае «дайце крэдыт крэдыцік ці крэдыцічак. У нас у эканоміцы ваўка і зюзька»

Сьцюдзёныя палацы і распусны хакей з шлягерам і не да такога старцавання давядуць

## ІЗНОЎ ТОЕ Ж?

Пару дзён народ меў з чаго пасьмяяцца. Дыктатар некаму паабяцаў, што сярэдні заробак у 2010 годзе дасягне ажно 500 сусьветных грошай

Хто напружыць памяць, то ўзгадае, што тыя гады была паабяцаная большая сума.

Была- ды сплыла.

Памятаеце, як ён вызебрыўся на тых, хто разявіўшы зяпу чакаў падвышкі заробкаў і пенсій? «Я вам нічога не абцаў! Ідзіце да таго, хто вам гэта абяцаў!» Ды кажын у Беларусі ведае, хто тут адзін мае права абяцаць.

Так і гэтым разам.

Але што ж паабяцаў дыктатар? Так сабе, міласьціну. Па-еўрапейскіх мерках гэта не заробак. Зараз у Беларусі ў буйных гарадох на такія грошы- 1.400.000 -не нараскашуеш. Далей, ужо запланаваны рост цэн праз падвышку падатку на даданую вартасьць. Дый без таго цэны не будуць стаяць колам. Калі ж самі сусьветныя грошы падымуцца ў цане, то і гэты мільён загубіць свой хвост ці гак. І, нарэшце, абяцанне- гэта не пісьмовае абавязацельства. Ну, абяцаў. Ну не ўдалося. А ідзіце вы ўсе да... таго, хто вам абяцаў

## ЦЭНЫ Ў ФІНЛЯНДЫІ ПАМЕНЕЛІ.

У нашым краі цэны ўвесь час растуць і ў многіх выпадках перавысілі еўрапейскія. Улада любіць казаць пра крызіс у чужых краёх, але змаўкае пра свой і цішком падвышае цэны. Маўляў, крызіс.

І ў чужых краёх, канешне, крызіс для працоўных не мёд, але тамака даўно адпрацаваны механізм сацыяльнай падтрымкі і ягоныя наступствы неяк імкнуцца зьменшыць, змякчыць.

От і ў Фінляндыі -што вырвалася з расійскага ярма ў 1917 годзе- упалі цэны на многія тавары, асабліва на харчы і апратку.

Хто ж даў каманду зьменшыць цэны? Ніхто не даў. Папросту ўрад, каб заахвоціць эканоміку, зьменшыў падаткі, а гандаль усьлед за гэтым скінуў цэны.

Так што ў крызіс цэны не расьці павінны, а падаць.

Яшчэ больш дзіўным мусіць здавацца нам тамтэйшая практыка бясплатнай раздачы харчоў усім ахвотным двойчы на тыдзень. Харчы зусім добрыя, не абы-што. А хлеб дык наагул раздаюць кожны дзень. Гэта ў буржуяў. А пераложныя камуністы казалі пра іх казкі, выстаўляючы нелюдзьмі.

Зрэшты, можна параіць цікаўным пачытаць дарожныя нататкі Цёткі- Алаізы Пашкевіч- пра ейную паездку ў Фінляндыю 100 гадоў таму. Пачытайце- не пашкадуеце.

А ў нас пад шумок крызісу ўлада рабуе народ, бо болей ні на што не здатная.

## ШЧОДРАСЬЦЬ З НАШАЙ КІШЭНІ.

Нядаўна два дыктатары і адзін бандыт (Беларусь, Казахстан і Расея) падпісалі дамову пра стварэнне мытнага хаўрусу і агульнай эканамічнай прасторы. Сьпярша беларускі дыктатар паканазіўся, маўляў, такі хаўрус нам нявыгадны. Потым ён працягнуў фразу. «нам нявыгадны, але мы яго падпішам». Іначай як здрадай нацыянальных інтарэсаў Беларусі гэта не заваецца. Нявыгадна- значыць нявыгадна, значыць сабе на шкоду. У дадзеным выпадку на шкоду кожнаму- і мне і табе- грамадзяніну Беларусі.Той, хто дзеіць нявыгадна ні заможным ні багатым не бывае. Дык на каго працуе, на чыю карысьць падпісуе паперы белдыктатар? Гэта для нашай нявыгады яго выбіраюць прадажныя і купленыя прасьцітуткавыя выбарчыя камісіі, Гэта ён «гарант» беднасьці?

Пакумекай добра, чытачу, чаму гэта асобіна, што нося тытул «прэзідэнт Чорнай, Чырвонай і Белай Русі, пратэктар Віленшчыны, Беласточчыны, Смаленшчыны і іншых страчаных і украдзеных тэрыторый, захавальнік нацыянальных скарбаў у Нацыянальным Банку і іншых сховішчах і складох» падпісуе паперы, якія зробяць Беларусаў бяднейшымі? Хто будзе піць нашу чыстаславянскую беларускую кроў? Такі чалавек павінен адразу пайсьці ў адстаўку. А то, відаць, ягоныя планы, на якія не хапіла першых чатырох год, ажно давялося «рэферэндумам» падкрадаць шчэ два, выйшлі за шкалу разумнага. Цепярся выйшлі.

## СЛОВА ЎСЬЛЕД

14 красавіка пайшла ў лепшы сьвет 91 гадовая **Бусел Сьцепаніда Яўхімава.**

Гэтая добрая беларуска пражыла гаротнае беларускае жыццё. Яна была з моцнай у веры праваслаўнай сям"і. Маладою пайшла замуж, але доўга не пажыла, бо вайна зжэрла ейнага Міну. Дзяцей яна не мела і хоць жыла адзінока, але апекавалася сваім вялікім родам, за ўсіх перажывала, усім, чым магла, памагала.

Адукацыю яна мела невялікую, але любіла чытаць і напамяць цытавала вывучаныя некалі ў школе вершыкі. Знала даволі песень. Ветэран калгаснай працы і ўдава героя вайны ўсё жыццё пражыла ў малюсенькай спарахнелай хатцы на бацькавым селішчы. Правіла «ніхто не забыты» не абміналa яе: на 9 мая ёй ад імя прэзідэнта падавалі то ягоны ліст на крэпкай паперы, то факсімільнае выданне газеты «Правда» з вялізным партрэтам Сталіна.

Родныя і сваякі з тугою будуць успамінаць ейную добрую душу.

Пайшла ад нас
добрая беларуска
**БУСЕЛ**
**Сцепаніда Яўхімава.**
Царства нябеснае
ейнай чыстай душы

16 чэрвеня пайшла ад нас у лепшы сьвет Друзік Хадосся Іванава. Працяглы час гэтая добрая беларуска працавала санітаркай у медпункце, адкуль і пайшла на пеньсію. Год таму памёр ейны сын Анатоль.

Болей не пабачаць дуброўцы гэтай самавітай жанчыны.

Пайшла ад нас
добрая беларуска
**ДРУЗІК**
**ХАДОССЯ ІВАНАВА**
Царства нябеснае ейнай
добрай душы.

Друкарня імя І. Масьціцкага
Наклад 100 ас.

Мы друкуем тыя меркаванні, што супадаюць з нашымі.

## АДГРЫЗАЮЦЬ ПЛОТ

Не пасьпелі ад гомельскіх чыноўнікаў прыйсьці адказы на скаргі грамадзян наконт лёсу Кабульськага сельсавета, як улада пачала разьвіваць падзеі далей. У панядзелак, 15.12. 2009, работнікі прадпрыемства «светач» пачалі зьдзіраць у аграмястэчку «Кабульшчына» бляшаны плот. Раз німа сельсавету, то зялёны залезны плот не паложаны. І гэта ў моцныя маразы, калі трэба шчыльна запіхаць анучамі кажную дзірачку! Пачалі з плоту каля аўтапрыпынку, што побач з будынкам сельсавета. І павязуць гэты перасоўны прызавы плот у Прудок, дзе ён больш патрэбны. Кажуць, што зьдзіраць плот загадаў шацілкаўскі старчаковы, грозны ўсім сп. Максіменка. Ну, раз сам Максіменка, то супраць яго не папрэш: лукашэнкаўскі памазаннік.

Хай бы разам з плотам пазьдзіралі і ўсе расейскамоўныя шыльды, якімі загадзілі сяло.

Адна з работніц сельсавета са скрухаю сказала, што вось зачыняць пасьля новага году будынак сельсавета, не будуць тапіць; вокны, канешне, павыбіваюць вандалы і прападуць і праца і грошы. Такое звычайна бывае з безгаспадарчымі пабудовамі ўсюды. Шкада змарнаванай працы і грошай. Гэта ж нашы, народныя грошы.

І плоту шкада: на ім такую праўду можна напісаць, узяўшы кавалак крэйды ў рукі!

На вясьне будуць выбары. Нам німа каго і куды выбіраць. **Без плоту- на выбары ні нагой!**

## ПАДМАНІЛІ З ПЕНЬСІЯМІ.

Цэлы год нашы ветэраны цярпліва чакалі, калі ім падвысяць пеньсіі. Пасьля падсунутай навагодняй 21 працантовай інфляцыі - сапраўднае раскулачанне народу!- ды нялюдзкага росту цэн стары народ спадзяваўся на панскую літасьць і спагаду. І нарэшце!

«Біце ў звона! Дурны мужык як варона!» Тэлевізар, а ўсьлед за ім народ загаманіў пра 9,5% падвышку пеньсій.

Кажын пачаў мераць гэныя проценты на сябе. Але выходзіла сьмешная, на”т болей, для рогату, сума каля 35 тысяч рублёў. От трахнуў! Зноў жа, не кажын, але многія прыкінулі:

21% інфляцыі + процантаў 30 на рост цэн = разам каля 50%. От на столькі трэбла падымаць пеньсіі, сама меней на 50%, а не на сьлінявыя 9,5%. У пяць разоў болей!! Але пеньсіі ў нас вылічваюцца не ад індэксу росту кошту жыцьця, а ад сярэдняга заробку. Ён трохі вырас за год. То як ні круці, старыя мусілі б мець каля 80. 000 падвышкі, хоць бы ўдвая болей. А далі ўсяго некія 35 тысяч...

Чаму гэта так?

Памятаеце, бяспамятныя, што казаў дыктатар пасьля першага разу? Што аднаго разу яму мала, бо ён не ўсе свае планы зьдзейсьніў. І пасьля другога, таксама. І пасьля трэцяга- 16 год!- тое ж скажа. Дык што ў яго тамака за планы такія?!! І калі яны ўжэ ў яго кончацца!!?

Давай галоснасьць і перабудову! А то моташна жыць будзе.

## УСЁ ДЛЯ БЫДЛА.

### А) РЭЧКА-ГАЎНАЦЕЧКА

Для экалагічных праблем «Дуброва-Агра» мае рашэнне! Усім занудзелі векавечныя гноевыя сажалкі, што за жывёлагадоўчымі хлявамі. Ад старасьці гэтых аўгеевых запасаў у іх не толькі гной сабраўся, але й чэрці ды іншая нечысь завялася. (Хто не верыць, хай уночы там пахадзіць.) Брудная сьмярдзючая вада вечна цякла адтуль, пераплывала дарогу, падтапляла высокавольтавую трансфарматарую падстанцыю і расьцякалася далей. Гэтак было. Але не будзе. Бо Агра-Дуброва пракапала канаву да асушальнай меліярацыйнай канавы, адтуль па іншай канаве гаўняная твань паплыве ў рэчку Іпу, а адтуль далей, у Прыпяць. Проста і зручна.

### Б) УСЁ ДЛЯ СКАЦІНЫ

Тым часам адмысловыя службы пачалі разьбіўку тэрыторыі пад новы быдла-агра-гарадок на 1200 кароў метраў за 300-400 ад Дубровы на Калінавай гары.

І ад цяперашніх 800 галоў, іхняга гною і сілосу , як падзьме вецер, нельга трываць, а то 1200! Зямлю засралі так, што вады нармальнай німа. Ад гною не адбіцца! Калхознае начальства рада. А чаму? І як можна будзе нармальна жыць у падгаўнянай Дуброве? Ніяк.

Як такая ўжо пільная патрэба ў гігантаманіі, то можна знайсьці прыдатнае месца для хлявоў, што не труіла б жыццё людзям. Ды хто пра іх дбае?

Адным словам, Беларусь, як Той казаў, вялікі калхоз...

## СЕЛЬСАВЕТ ПРАПАЎ.

Насельнікаў Кабульска-Палескага сельсавета ўзрушыла навіна: сельсавет ліквідуюць. Шчэ летась у рамонт будынка сельсавета ўклалі добрыя грошы, панапісувалі па сялу надпісаў на каланіяльнай расейскай мове, нарабілі любаты- і на табе! Яно то да таго ішло. Амаль штогод калектыў дэпутатаў мусіў абіраць сабе новага верхаводу, ба ранейшы чамучыці мала задавальняў раённае начальства. От і сёлета ўлетку прагналі спадара Крывалапа, але новага начальніка не ставілі.

Нарэшце ўвосень па сёлах райначальнікі правялі сходкі, дзе паінфармавалі грамадзян пра свае намеры, абвясьцілі, што ўсе прысутныя за такое рашэнне. Самі ж дэпутаты былі супраць ліквідацыі сельсавета, акрамя аднэй дужа важнай дэпутаткі з Дубровы. Ды Валодзя Кукар, начальнік спраў з Шацілак, з сваёю гатоваю папераю быў непераможны. Вучыць яго не трэба! Напісалі, што ўсе дэпутаты «за», значыць- «за»!

Калі ж народ расшалопаўся, што распадаецца звычная выгода, то пачаў зьбіраць подпісы і жаліцца Лукашэнку. Там паперы чытаюць толькі прыдворныя, яны ж і шлюць іх у Гомель, у вобласьць. (От дзе паразітычная структура!). А воблась што? Не будзе ж яна на сабе эканоміць! Сапраўдная шчодрасьць пачынаецца з сябе!! Дае грамадзянам адпіску, што ўсё правілна, што калхозы растуць і шырацца, таму і сельсаветы павінны быць па гарбузу.

**ПУЖАННЕ.** Пярэчыць начальскай волі, гэта як пляваць на вентылятар. Найбольш подпісаў пад скаргаю пра скасаванне с/савета сабралі ў Кабульшчыні, адкуль іх шкраб- (школьная работніца) спадарыня Тамара Бусел паслала ў розныя чыноўніцкія гнёзды. Там сядзяць шчэ тыя жукі і яны хуценька даслалі дзяжурны адказ, што, маўляў, усё акэй.

Аніякія аргуманты і логіка не прабіваюць цьвёрдакаменнага чыноўніцкага ілба. Ну, не хочуць чыноўнікі пачуць рэліктавы сельскі народ- не адапрэш жа ім вушы, бы вароты. Але тут на падзею вырашылі ўскочыць і скарыстаць зь яе дзьве шацілкаўскія жанкі: начальніца райсавета сп. Галіна Філіповіч і ейны зброеносец начальніца адукацыі сп. Людміла Вялічка. Дзейнічалі з-за рога.

Цудоўна ведаючы, што сп. Тамары ў школе німа- яна была па працы ў Шацілкахзгаданыя спадарыні дуэтам завіталі ў Кабульскую школу і правялі псіхічную атаку: распытвалі ў дырэктаркі хто такая сп. Тамара, што яна, чаму яна, што ў яе, і пад. Чысты псіхоз наганялі. Канешне, канешне жанкі зналі пра прамоўніцкае майстэрства сп. Тамары і на просты кантакт зь ёю не адважыліся. Мала што...

Праз пэўны час сп. Галіна ізноў наведала апальную Кабульшчыну, разьнесла дашчэнту работніц сельсавета- у псіхалогіі гэта завецца «пераадрасавала агрэсію»- і паўтарыла «апошні наезд на Літве» ў школе, паглыбляючы свае веды пра сп. Тамару. (Тая недзе ў школьнай сталоўцы зь дзеўкамі піла чай і ела торт з выпадку свайго дня народзін) Дак не, каб спаткацца з грамадзянкай, абмеркаваць зь ёю сітуацыю і разам напіцца чаю і да чаю. Сп. Галіна ізноў путала пра мужа сп. Тамары, дзе ён гаруе, папрасіла ейныя тэлефоны- і ёй далі! чужыя!.

Ну нашто табе тэлефон?! Тут Родас, тут і скач! Унь Тамара, пагаманіце ў жывым эфіры, як дзьве разважныя жанкі. Але на сп. Галіне пераважыў мундзір начальніка.

Мы не ведаем, чаму такая начальская алергія на простае і несупрацьпраўнае дзеянне грамадзян напала на шацілкаўскі сінедрыён. Але ці не сьведчыць яна шчэ раз пра бездань, што падзяляе просты народ і ягоных слуг, каторыя насамрэч слугуюцца гэтым народам?

Не, няўмее наша наменкла-тура працаваць з асобным грамадзянінам. Толькі з масамі.

А сельсавет? Да абал яго пес! Ад іх ніаднаго карысьці, акрамя як выдача даведак, німа. Сельсавет- гэта не орган народнага прадстаўніцтва, а орган дзяржаўнай улады. Таму такія дохлыя яны. Канешне, езьдзіць у Давудаўку ці Мікалаеўку будзе менш зручна, чым у Кабульшчыну.

Раз улада паставілася задніцай да народных пажаданняў, то ці варта народу выбіраць дэпутатаў у такія саветы? Усёроўна іхняя вага роўная нулю. Да ведама: выбары ў мясцовыя саветы будуць навясьне.

Што ж тычыцца сталінскага нашыйніка -калхозаў- то іх не узбуйняць трэба, а разганяць, як сярлівых катоў. Парадку і ладу ў дзяржаве паболее, а зладзеяў, п”яніц і гулцяёў паменее.